ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання 38-ы
№ 64 (2424)
15 жніўня 1969 г. ПЯТНІЦА
Цана 4 кап.

## У КРАІНУ СУОМІ

**У кастрычніку гэтага года ў Фінляндыі будзе праведзен Тыдзень беларускай культуры.**

**У краіну Суомі паедзе дэлегацыя дзеячоў культуры рэспублікі і актывістаў Беларускага аддзялення таварыства «СССР—Фінляндыя». Мастацтва нашай рэспублікі будзе прадстаўлена танцавальнай групай Дзяржаўнага народнага хору БССР, эстрадным ансамблем «Тоніка», салістамі Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР і філармоніі. У Фінляндыю выедзе таксама спецыяльная турыстычная група вучоных, работнікаў культуры, медыцыны, якія выступяць з расказамі аб Савецкай Беларусі.**

**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі пасылае ў Фінляндыю выстаўкі жывапісу і графікі вырабаў народных промыслаў рэспублікі, народнага прыкладного мастацтва, беларускіх сувеніраў.**

**У час Тыдня беларускай культуры народ Фінляндыі пазнаёміцца з радам беларускіх мастацкіх і хранікальна-дакументальных фільмаў, спецыяльнымі радыё- і тэлеперадачамі.**

**Урачыстае адкрыццё Тыдня беларускай культуры адбудзецца ў горадзе Юляскюля на поўдні краіны. Канцэрты, паказ кінафільмаў, лекцыі будуць праведзены ў многіх гарадах і населеных пунктах Фінляндыі, а закрыццё тыдня адбудзецца ў Хельсінкі.**

**БЕЛТА.**

## Савецкаму кіно 50

**Паўстагоддзя — тэрмін не такі ўжо вялікі для жывапісу, музыкі, тэатра, літаратуры, архітэктуры, гісторыя якіх пачыналася ў далёкай старажытнасці. Але ўсяго толькі восемдзесят гадоў назад браты Люм'ер у Парыжы ўпершыню паказалі на экране «жывыя карціны»—і з таго часу кінамастацтва рушыла ў свой вялікі шлях.**

**У нашай краіне створана кіно, вядомае ўсяму свету, — гэта савецкае кіно. Яму — паўстагоддзя. 27 жніўня грамадскасць адзначыць знамянальную дату — у гэты дзень 1919 года У. І. Ленін падпісаў Дэкрэт Савета Народных Камісараў, якім уся кінапрамысловасць абвяшчалася дзяржаўнай.**

**Старэйшына беларускага кіно Уладзімір Уладзіміравіч Корш-Саблін расказаў нашаму карэспандэнту Віктару Салаўёву:**

**— Аглядаючыся на пройдзены шлях, мы маем права ўспомніць, чаго ў нас 50 гадоў назад не было: не было студый і здымачных пляцовак, не было кваліфікаваных кадраў, не было тэхнічнага абсталявання... Быў энтузіязм! Так, піянеры беларускага савецкага кінематографа разумелі, што мастацтва дзесятай музы вельмі патрэбна вызваленаму Кастрычнікам народу, што з экрана Савецкая ўлада і Камуністычная партыя могуць шырока весці прапаганду вялікіх ленінскіх ідэй і праўдзіва паказваць новую рэчаіснасць. І мае тагачасныя старэйшыя таварышы — я гэта бачыў на свае вочы—самаахвярна працавалі, закладваючы падмурак новага для Беларусі мастацтва.**

**Ці трэба спыняцца на этапах станаўлення і развіцця нашага кінематографа! Аматары ведаюць гэта па працах нашых, таксама выхаваных у рэспубліцы, кіназнаўцаў. Ну, і ніводзін кінадаведнік ці энцыклапедыя ў свеце цяпер не абмінаюць у артыкулах на літары «Б» або «К» таго, што зроблена кінематаграфістамі БССР...**

**Пачыналася, як вядома, з дакументальных стужак. Мастацкае кіно мы пачалі ствараць трохі пазней. Была створана арганізацыя «Белдзяржкіно». Тут бярэ пачатак і мая творчая біяграфія. Мне пашчасціла быць сведкам і вучнем надзвычай таленавітага і рознабаковага майстра кіно — Юрыя Тарыча. «Лясная быль», «Кастусь Каліноўскі», «Хвоі гамоняць», «Атэль «Савой», «У агні народжаная»... Цяпер гэтыя назвы мы часцей за ўсё сустракаем у літаратуры пра кіно, а калісьці стужкі з маркай «Белдзяржкіно» былі сапраўднымі «баевікамі» — беларускі (ды і ўсесаюзны!) глядач штурмаваў кінатэатры і клубы, дзе дэманстраваліся гэтыя стужкі.**

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю
## ПАКАЗВАЕ БЕЛАРУСЬ



*Інтэрв'ю з першым сакратаром Саюза кінематаграфістаў БССР народным артыстам рэспублікі У. У. КОРШ-САБЛІНЫМ.*

**Калі гаварыць пра асноўны ідэйна-мастацкі пафас нашых фільмаў, трэба падкрэсліць, што пісьменнікі, рэжысёры і аператары аддавалі перавагу тэмам гісторыка-рэвалюцыйнага гучання. Гэта і зразумела — тады яшчэ не адгрымела рэха Кастрычніка і грамадзянскай вайны. Героі гэтых падзей і былі самымі любімымі героямі мастацтва і асабліва кіно.**

**Мне дарагія ўспаміны пра першы гукавы мастацкі фільм, які я рабіў у «Белдзяржкіно». Сцэнарыст Б. Брадзянскі прапанаваў нам цікавы літаратурны матэрыял. Карціна называлася «Першы ўзвод». Мяне змест стужкі хваляваў надзвычай, бо маё жыццё было звязана ў юнацкія гады з арміяй, ваенныя будні я зведаў, як кажуць, на сваёй скуры... Зразумела, нам, аўтарам і выканаўцам роляў, было цяжкавата — не хапала вопыту, не было майстэрства. Але захапленне панавала ў час здымкаў— і фільм, калі верыць крытыкам і касавым паказчыкам, атрымаўся.**

**У цэнтры гэтага кінафільма два героі — паслядоўны рэвалюцыянер, важак салдацкай масы Макар Бобрык і буржуазны нацыяналіст Веліканаў. У сутыкненні гэтых персанажаў мы і стараліся раскрыць розныя погляды людзей на сутнасць першай сусветнай вайны. Лёс гэтых людзей пераплятаецца на працягу ўсяго фільма. У самыя вострыя і адказныя моманты жыццё сутыкае Бобрыка і Веліканава, і менавіта тады ярка і выразна праяўляецца характар кожнага з іх, ідэйная і маральная сутнасць...**

**Як потым пісалі крытыкі, нам удалося раскрыць дзейнасць бальшавіцкай партыі, велізарную ролю камуністаў па згуртаванні рэвалюцыйных сіл. здольных рашуча павярнуць бег падзей.**

**Вельмі прыемна было працаваць з акцёрамі — цяпер народным артыстам СССР Б. Бабачкіным і народным артыстам РСФСР Ф. Нікіціным — выканаўцамі галоўных роляў. Цяпер гэта імёны славутыя, а тады хлопцы былі маладыя, акцёры «жаўтаротыя»...**

**Наогул, шлях многіх цяперашніх майстроў кіно пачынаўся на фабрыцы «Белдзяржкіно» — Марк Данской, Ісак Дунаеўскі, Мікалай Сіманаў (гэты спіс я мог бы павялічыць у дзесяць разоў) прыходзілі да нас яшчэ нікому не вядомымі, пачаткоўцамі. Што ж і казаць пра нацыянальныя творчыя кадры! Гэта гордасць беларускай культуры, што мы маем таленавітых і адданых справе рэжысёраў, аператараў, мастакоў, кампазітараў, — людзей, якія добра ведаюць спецыфіку экраннага мастацтва, патрабаванні сучаснага кінематографа.**

**Асабліва дарагія тыя работнікі, што прайшлі з кінакамерай і аўтаматам па палях баёў Вялікай Айчыннай вайны. Кіналетапіс гераізму савецкага народа мае каштоўныя кадры і сюжэты, знятыя нашымі таварышамі ва ўмовах партызанскай барацьбы і на пярэднім краі франтоў... Цікава, што цяперашнія значныя творы дакументалістаў, якія па-новаму асэнсоўваюць мінулае, суадносячы яго з сённяшнім днём, — назаву хоць бы «Дарогу без прывалу», «Арліную крыніцу», «Штрыхі да партрэта», «Генерала Пушчу», — грунтуюцца на багатым хранікальным матэрыяле, назапашаным беларускімі кінематаграфістамі ў векапомныя дні вайны.**

**Не буду спыняцца на мастацкіх стужках «Беларусьфільма», якія атрымалі прызнанне гледача ў пасляваенныя часы. І ветэраны, і маладыя работнікі студыі далі цікавыя творы на самыя разнастайныя тэмы. Ад манументальных гістарычных палотнаў да дзіцячых казак, ад псіхалагічных даследаванняў характару сучасніка і да прыгодніцкіх стужак, адрасаваных дзецям,— такі дыяпазон творчасці нашага калектыву. Мы ганарымся, што лепшыя з нашых работ адзначаны сусветнымі, усесаюзнымі і рэспубліканскімі ўзнагародамі, што марку «Беларусьфільм» ведаюць у многіх краінах свету.**

**Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі і ўрад рэспублікі аказваюць вялікую дапамогу нашаму кіно, нацэльваюць творчых работнікаў на стварэнне новых высокаідэйных і па-мастацку яркіх фільмаў.**

**Студыя працуе над стварэннем стужак, якія шырока адлюстроўваюць шматграннае сучаснае жыццё. Радасна адчуваць, што і маладое пакаленне рэжысёраў шукае найбольш вострае, па-грамадзянску глыбокае асэнсаванне актуальных тэм. Больш палавіны стужак на студыі робіцца маладымі рэжысёрамі ў садружнасці з ветэранамі беларускага кіно. Праўда, мы яшчэ ў вялікім даўгу перад народам, і на экран часам выходзяць фільмы неглыбокія па думцы, невыразныя па змесце, недасканалыя па форме. Творчыя дыспуты і дзелавое абмеркаванне дапаможа нам пераадолець гэты недахоп.**

**Увесь калектыў работнікаў беларускага кіно накіроўвае свае сілы на тое, каб сустрэць 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна новымі творамі, вартымі нашага часу, часу вялікіх здзяйсненняў.**



Камбайны яшчэ ў полі...



Поўныя будуць засекі!

## ШЧОДРАЕ ЛЕТА

На дарогах Беларусі мчаць зараз машыны, грукочуць трактары з прычэпамі. Вязуць яны хлеб новага ўраджаю. Бясконцым бурштынавым патокам льецца збожжа ў засекі краіны. Прымай, Радзіма, багаты каравай!

Колькі было нараканняў на лета. І сапраўды, яно шмат у чым правінілася: позна прыйшло, ледзь не цэлы чэрвень лілі халодныя дажджы, бушавалі вятры, малаціў палеткі град. І ўсё ж такі хлеб урадзіў небывалы.

І вось нарэшце настала жніво. Намнога пазней, чым звычайна. З поўдня Беларусі ўжо ляцелі радасныя весткі: брагінскі калгас імя Тэльмана выканаў два гадавыя планы продажу збожжа дзяржаве. Жніво ахоплівала ўсё новыя і новыя раёны. Аднак, калі я прыехаў у калгас «Свабода» Ашмянскага раёна, там толькі збіраліся выязджаць у поле. Шэсць камбайнаў, нібы вялізныя жукі, паўзлі па палявой дарозе. Каля мяжы яны спыніліся. Хлопцы абступілі галоўнага агранома калгаса Галіну Фёдараўну Кулік.

— Хлопцы, рыхтуйце перавясла. Раней жанчыны звязвалі брыгадзіра, — жартуе Галіна Фёдараўна.

— Не так проста мяне звязаць, — адказвае загадчык вытворчага ўчастка Раман Рыбіцкі. — Мяне і ў мяшку не зловіш...

Уздымаючы слуп пылу, падляцеў на матацыкле сакратар партбюро калгаса Пётр Падгайскі:

— Сход лічу працягнутым,— кінуў ён з усмешкаю. — Вось і дачакаліся зажынак... Мо закурым ды і пачнём? Расу ўжо сонца выпіла.

Вясёлыя гаманлівыя хлопцы неяк адразу прыціхлі... Пачатак жніва. Гэтая хвіліна заўсёды хвалюе земляроба. Маці мая, памятаю, у гэты дзень надзявала святочную вышытую сукенку з «бялёнага» палатна, чыстую белую хустку і, адразу памаладзелая, ішла з сярпом у поле.

— Першы, мусіць, ты пойдзеш, Косця, — сказаў Раман Рыбіцкі.

— Чаму я? — засаромеўшыся перапытаў Косця Кулік, невысокі, ладны хлопец: — Хто выцягне кароткую запалку, той і пачне, —дадаў ён і добра, светла ўсміхнуўся.

— Хопіць табе, Косця, дурыкі выкідваць, — загаманілі хлопцы. — Вымпел летась заваяваў, табе і пачынаць. Паглядзім, мо развучыўся за зіму, дык абскачам ураз...

Косця спрытна падняўся на мосцік свайго «карабля». Весела заракатаў матор. Камбайн павольна рушыў наперад. Важкія тугія каласы нібы кланяліся яму.

— Цяжкае сёлета жніво, — гаворыць Галіна Фёдараўна. — Паспела ўсё разам — і азіміна, і ярына. Хоць разарвіся. Але ж нічога, выкруцімся. Тэхнікі хапае, людзі працуюць ад душы. Ураджай радуе. Цэнтнераў пад 30—35 павінна даць пшаніца. Крыху меней — ячмень. Жыта і авёс — больш як па 20 цэнтнераў. Ды і лён сёлета вельмі добры. Вось колькі абабкаў на полі. Адзін ля аднаго. Можна падумаць, што лён так і расце снапамі... Такога ўраджаю на нашых камяністых бедных палях ніколі не было.

Мы ішлі за камбайнамі. Мяккае свежае ржышча, акуратныя кучкі саломы дыхалі цёплым, духмяным пахам хлеба. Здавалася, і неба прапахла хлебным духам. Аграном уважліва аглядала ржышча — ці не застаюцца каласы, шукала зерне ў саломе і мякіне. Але дарма — камбайнеры ўбіралі на дзіва чыста. Тут працавалі сапраўдныя гаспадары. Галоўны іх клопат — сабраць без страт, больш намалаціць, бо ад гэтага залежыць іх заробак, плён усёй іх працы. Механізатары — члены звяна канчатковай прадукцыі.

Што гэта такое? Чым яно адрозніваецца ад механізаваных звенняў, якія гадоў пяць дзейнічаюць у калгасе? Аб гэтым варта расказаць больш падрабязна. Звяно канчатковай прадукцыі аб'ядноўвае не толькі механізатараў, але і паляводаў. Тут няма дапаможных звенняў. Працуе яно першы год. Вынікі падводзіць рана, як кажуць, куранят лічаць па восені, але эканамісты зрабілі некаторыя падлікі пасля вясенніх работ. І вось якая карціна атрымалася.

Звяно канчатковай прадукцыі Косці Куліка, будзем называць яго першым. І механізаванае звяно Івана Лукшы апрацоўваюць прыкладна аднолькавую плошчу: першае — 311 гектараў, другое — 316. У першым 31 чалавек выпрацавалі 1505 чалавекадзён, у другім — 58 калгаснікаў, але чалавекадзён тут меней — 1227. Заработная плата склала ў першым звяне 3443 рублі, у другім — 4626. Заўважым, што першае звяно раней справілася з усімі работамі, хаця людзей у ім меней. Ім не трэба кожны дзень даваць заданне, вызначаць норму, запісваць працадні. Не трэба звеннявому, або загадчыку вытворчага ўчастка хадзіць з цыркулем і замяраць, што зроблена за дзень. Звяну вызначаецца ў пачатку года гаспадарча-разліковае заданне — атрымаць на 85 тысяч рублёў прадукцыі, даць 22 тысячы чыстага прыбытку. Калі звяно гэтага даможацца, то зарплата ў канцы года павялічыцца на дваццаць працэнтаў (зараз яго члены атрымліваюць аванс), акрамя таго палова звышпрыбытку таксама пойдзе на зарплату. Такім чынам, члены звяна кроўна зацікаўлены ў выніках сваёй працы.

Гэты прыклад і лічбы я прывёў дзеля таго, каб паказаць нястомны земляробскі пошук лепшай арганізацыі працы, лепшага выкарыстання тэхнікі.

Камбайны павярнулі назад, пайшлі на другі захад. Машыны адвозілі зерне на ток. Тут ва ўсю кіпела работа. Адзін чалавек сачыў, каб транспарцёру хапала «стравы» — падсыпаў зерне з кучы. Машыны веялі збожжа, сушылі, і па жолабе яно сыпалася ў засек. Чалавек гэты, малады калгаснік Стась Лукша, учарашні дзесяцікласнік. Лапата — не галоўная яго зброя. Стась ведае толк і ў машынах.

Так, непазнавальнай стала праца земляроба. Галоўны яе цяжар узялі на свае плечы машыны. А каб кіраваць імі, сучасны калгаснік павінен шмат ведаць. У калгасе многія вучацца. Прыклад у гэтым паказаў старшыня Мечыслаў Іванавіч Гіруць. Ён завочна скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.

У першыя гады старшынства Мечыслаў Іванавіч сілком прымушаў людзей брацца за кнігі. Некаторыя аднекваліся, неахвотна згаджаліся. Але старшыня чалавек настойлівы, дамагаўся свайго. Затое зараз у калгасе ёсць высокакваліфікаваныя вопытныя кадры. Сёлета закончылі сельскагаспадарчы тэхнікум загадчыкі вытворчых участкаў Раман Рыбінскі і Пётр Падгайскі, галоўны аграном Галіна Кулік — інстытут, рыхтуецца да абароны дыплома галоўны бухгалтар Ірына Кардэль. Займаюцца завочна даярка Крысціна Янкоўская і іншыя калгаснікі.

Ужо вечарэла, калі прыехаў з Мінска старшыня (яго тэрмінова выклікалі па справах) і адразу — у кантору. Мечыслаў Іванавіч, — сярэдняга росту, моцна збіты, шыракаваты, адкрыты твар, гладка зачэсаныя цёмнарусыя валасы. Уся яго постаць і выгляд, манера трымацца выдавалі спакойнага і памяркоўнага чалавека. Шэсць гадоў назад Гіруцю, тады ён быў першым сакратаром Ашмянскага райкома камсамола, прапанавалі ўзначаліць калгас. Не адразу ён згадзіўся, думаў, разважаў. Але калі вырашыў, дык узяўся за працу вельмі шчыра.

Малады энергічны старшыня спадабаўся калгаснікам. З дапамогай партыйнай арганізацыі, спецыялістаў ён здолеў лепш арганізаваць працу, стварыць механізаваныя звенні. Калгас пайшоў угару. Нібы на дражджах пачала расці гаспадарка пасля сакавіцкага Пленума (1965 г.) нашай партыі. Зараз калгас «Свабода», адзін з лепшых у раёне. Слаўціца ён высокімі ўраджаямі, працавітымі людзьмі. Тон задаюць камуністы — тут іх больш як сорак. Яны працуюць на самых адказных участках вытворчасці. Вырас і старшыня. Ён стаў вопытным кіраўніком. Мясцовыя жыхары вылучылі яго дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі.

Не пазнаць зараз Кракаўку— цэнтр калгаса. Шырокія прамыя вуліцы, абсаджаныя пладовымі дрэвамі, роўныя стужкі асфальтавых тратуараў, акуратны, пад шнурок, блакітны штакетнік з цэментавымі слупкамі.

— Вось тут у нас будзе фантан, — расказваў старшыня калгаса. — За клубам пасадзім парк, выкапаем сажалку. Праект ужо ёсць. Па восені пачнём рабіць.

Дом культуры ў нас неблагі, расказваў далей Мечыслаў Іванавіч, але яго работай калгаснікі не задаволены. Няма здольнага арганізатара. Аказваецца, падрыхтаваць сапраўднага культработніка цяжэй, чым агранома ці заатэхніка. Тут патрэбен талент...

Чырвонае, стомленае сонца нізка вісела над вёскай, калі мы выйшлі з канторы.

— Мусіць, заўтра зноў будзе вецер, халадэча, — угледаючыся ў неба, прамовіў старшыня. — Чарговы цыклон. А можа антыцыклон, хай яго ліха... Надвор'е мяняецца сем раз на дні. Ну і лецечка...

Так, капрызнае, скупое на цеплыню сёлетняе лета. Але самаадданай, руплівай працай сельскія жыхары зрабілі яго шчодрым.

**Л. ЛЯВОНАЎ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**
Фота аўтара.

## НА БРАТНЯЙ МЯЖЫ

На самай мяжы Беларусі і Украіны, за сорак кіламетраў на поўдзень ад месца, дзе зліваецца Сож і Дняпро, стаіць старажытны гарадок Любеч. Гэтыя мясціны нядаўна наведаў народны артыст СССР Павел Малчанаў. Ён меў сустрэчу з артыстамі Брагінскага народнага тэатра і моладдзю, выступаў з дакладам «Ленін у беларускім сцэнічным мастацтве», паказваў сцэны са спектакляў і фільмаў, у якіх браў удзел.

У Любеч мы прыплылі на быстраходным кацеры «Ракета». Павел Сцяпанавіч Малчанаў па просьбе сустрэўшых нас артыстаў народнага тэатра тут жа, на беразе Дняпра, расказваў аб сваім немалым шляху ў мастацтве, аб сыграных на беларускай сцэне і ў кіно ролях, гаварыў аб мастацтве акцёра і метадах работы над вобразам.

Пасля адбыўся своеасаблівы паказальны ўрок жывой сцэнічнай мовы і мастацкага чытання. Артысты народнага тэатра Я. Сачок, Я. Шайкевіч, Л. Забянок і іншыя паказалі некалькі сцэн і прачыталі маналогі з пастаўленых імі п'ес... І мы выказалі ім свае заўвагі і парады.

Два грузавікі, пастаўленыя бартамі адзін да аднаго, замянілі эстрадную пляцоўку для канцэрта. Народу сабралася столькі, што, як кажуць, яблыку не было дзе ўпасці. Людзі жыва рэагавалі на кожны ўпадабаны нумар і не скупіліся на дружныя воплескі.

Артысты Брагінскага народнага тэатра расказалі нам, што ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Дома культуры вёскі Ясені падрыхтавалі нядаўна і паказалі цікавае тэатралізаванае дзеянне — «Мінулае і сучаснае нашай вёскі».

Ленінскі вечар адбыўся назаўтра ў Брагінскім Доме культуры. З затоеным дыханнем слухалі прысутныя хвалюючы расказ Паўла Малчанава пра яго чвэрцьвекавую працу над вобразам вялікага правадыра.

...Студзень 1951 года... На студыі «Масфільм» зацверджаны да пастаноўкі сцэнарый Усевалада Вішнеўскага «Незабыўны 1919-ы». Пачаўся пошук акцёраў. Асабліва на ролю Уладзіміра Ільіча Леніна. З розных гарадоў і тэатраў краіны былі запрошаны артысты. Ужо каторы дзень праводзіліся так званыя кінапробы, а рэжысёр усё быў незадаволены. Але вось яму падказалі звярнуць увагу на Паўла Сцяпанавіча Малчанава, які ў Беларускім драматычным тэатры імя Я. Коласа з вялікім поспехам выконваў ролю Леніна. У той жа дзень у Віцебск паляцела тэлеграма П. С. Малчанаву. Гэта здзівіла і ўразіла акцёра. Ён прыехаў у Маскву.

На Мастацкім савеце студыі былі прагледжаны «пробы» чатырнаццаці прэтэндэнтаў на ролю Леніна. Усе пагадзіліся, што «ролік» П. С. Малчанава—найлепшы. Паказалі «пробы» Лідзіі Фоціевай — шматгадовай супрацоўніцы Уладзіміра Ільіча. Яна не ведала ацэнак камісіі, але таксама адзначыла «ролік», дзе быў зняты П. Малчанаў...

Вельмі ўсхвалявалі брагінцаў старонкі вусных успамінаў П. Малчанава пра сустрэчу яго з Д. І. Ульянавым, пра гутарку з братам Леніна аб правадыры і пра мастацкае ўвасабленне гэтага вобраза.

Выдатны артыст паказаў брагінчанам сцэны і маналогі з п'ес М. Пагодзіна «Чалавек з ружжом» і «Крамлёўскія куранты». На вечары прагучалі ў мастацкім чытанні творы беларускіх пісьменнікаў, прысвечаныя Леніну.

Вечар закончыўся праглядам эпізодаў з кінафільмаў і фільмаў-спектакляў, у якіх П. Малчанаў выконваў ролю У. І. Леніна.

**А. СЛЕСАРЭНКА,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР.**

## ХТО БУДЗЕ ПЕРАМОЖЦАМ

**Мінскі абласны савет прафсаюзаў аб'явіў конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці прадпрыемстваў, будоўляў і ўстаноў на лепшую арганізацыю культурнага абслугоўвання працаўнікоў саўгасаў і калгасаў, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.**

**Умовамі прадугледжана выступленне самадзейных калектываў у калгасах і саўгасах не радзей як 1—2 разы ў месяц. Праграма выступленняў павінна ўключаць у сябе творы, прысвечаныя Уладзіміру Ільічу Леніну, Радзіме, партыі, шырокае выкарыстанне твораў беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў і народнага фальклору.**

**Конкурс працягнецца да канца года.**



**Споўнілася 13 гадоў з дня смерці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.**

**13 жніўня, як і штогод у гэты дзень, сабраліся на магіле вялікага песняра родныя і блізкія паэта, пісьменнікі, журналісты, супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа, чытачы.**

**Жывыя кветкі, вянкі... І хвіліна маўчання ў знак бязмежнай любві і пашаны да чалавека, да мастака, чыя песня, то трывожна-набатная, як шум дубовых гаёў падчас навальніцы, то ласкавая і пяшчотная, як нёманскія хвалі, то журботная, як плакучая вярба над магілаю песняра, не сціхае ў сэрцы людзей.**

Фота Ул. КРУКА.

## АД МІНСКА ДА КАРПАТ

**Над садамі і вінаграднікамі невялічкага закарпацкага сяла гучыць беларуская песня. Гэта завіталі ў госці да ўкраінскіх сяброў студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага — удзельнікі агітпаходу, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.**

**Вось ужо другі тыдзень выступаюць яны з лекцыямі і канцэртамі перад калгаснікамі, рабочымі, воінамі Савецкай Арміі.**

**Ім не патрэбна вялікая сцэна. Яны выступаюць на палявых станах, у вінаградніках. Гледачам добра запомніліся імёны Галіны і Віктара Стрэльчанкаў, Уладзіміра Будая, Святланы Такарскай, Альбіны Кісялёвай і іншых удзельнікаў Ленінскага агітпаходу.**

**С. ВІКТАРАЎ.**

## НОВЫЯ МУЗЫЧНЫЯ ВУЧЫЛІШЧЫ

**Сёлета ў нашай рэспубліцы адкрыліся тры новыя музычныя вучылішчы — у Мазыры, Баранавічах і Гродна.**

**У Мазырскім і Баранавіцкім вучылішчах зараз ідуць прыёмныя экзамены. Гэтыя ўстановы прымуць па 75 чалавек на першы курс дзённага аддзялення і па 25 чалавек на завочнае. Столькі ж навучэнцаў прыме і Гродзенскае вучылішча.**

## ЧЫТАЧЫ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

□

Пры Гомельскім абласным Доме мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў створана студыя чытальніка-дэкламатара. У ёй займаецца больш 50 рабочых, служачых, студэнтаў і вучняў абласнога цэнтра. Сярод студыйцаў — работніца швейнага аб'яднання «Камінтэрн» Наталля Дзянісава, тэлеграфістка Людміла Цыкулеўская, студэнт-завочнік Сяргей Грамыка, вучаніца Грабаўскай сярэдняй школы Тамара Міхалькевіч і іншыя аматары мастацкага слова.

**Ф. КУРАС.**

□

Жыхары вёскі Кабіна Гара паважаюць свайго кінамеханіка камсамолку Валянціну Каленчанку за дбайныя адносіны да даручанай справы. Яна — актыўны прапагандыст беларускага кінамастацтва, заўсёды задавальняе заяўкі сваіх аднавяскоўцаў на мастацкія і хранікальна-дакументальныя фільмы. План мінулага месяца па дэманстрацыі кінафільмаў В. Каленчанка выканала за 15 дзён.

**А. ГАЛЫНСКІ.**

□

Больш за пятнаццаць гадоў збірае дыяменты вуснай народнай творчасці загадчык Талачынскага раённага аддзела народнай асветы Уладзімір Міхайлавіч Панушкін. Дзе б ён ні быў — у аўтобусе, на калгасным двары, на вясельнай бяседзе — уважліва прыслухоўваецца, як людзі гавораць, якія спяваюць песні, прыпеўкі. Найбольш удалыя і цікавыя прымаўкі і прыказкі, песні і прыпеўкі ён запісвае.

Уладзімір Міхайлавіч ужо сабраў больш як пяць тысяч прымавак і прыказак, запісаў больш як 200 беларускіх народных песень.

**А. МАЗУР.**

□

Моцная дружба звязвае артыстаў народнага агіттэатра «Усмешка» Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава з воінамі Прыбалтыйскай ваеннай акругі. Ужо двойчы яны сустракаліся, і вось зноў запрашэнне.

Разам з «Усмешкай» выехаў створаны пры Палацы культуры тэатр маладзёжнай эстрады «Малыш». Артысты прабудуць у гасцях дзесяць дзён і выступяць з новымі праграмамі.

**І. ТАРАСАЎ.**

